

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 4 (32)✦Люты 1993 г. Цана 3 руб.

## СЁННЯ Ў НУМАРЫ:

«Справа Драздова» завяршаецца?

◆

Як банк пайшоў па-банку

◆

Астролаг раіць земляробам

◆

Тэле ці тэатр? Выбірайце з намі

## НАДЫШОЎ ЧАС

Як ужо, мусіць, заўважылі нашыя пастаянныя чытачы, «Выбар» штонумара ймкнуўся да як мага большай колькасці матэрыялаў на роднай, беларускай, мове жыхароў нашага паўночна-беларускага краю.

Такім чынам, мы ўносілі сваю сціплую лепту ў справу нацыянальнага Адраджэння і, як журналісты, набіраліся вопыту працы на роднай мове, на ніве беларушчыны.

І надышоў час стаць, нарэшце, цалкам беларускамоўным выданнем, каб больш глыбока і разнастайна адлюстроўваць працэсы беларускага Адраджэння, каб спрыяць станаўленню незалежнай дзяржавы.

Жыве Беларусь!

Рэдакцыя.

## У падтрымку Шушкевіча

Як стала вядома рэдакцыі, 23 навучэнцы Новалукомльскага ПТВ-83 накіравалі ліст спікеру беларускага парламента С. Шушкевічу, у якім між іншым гаворыцца: «Мы з тых беларусаў, хто лічыць роднай беларускую мову. Мы не можам маўчаць, калі родная мова ў небяспецы, калі вас вінавацяць за слова ў абарону беларускай мовы! Мы не вінаватыя, што сталі рускамоўнымі беларусамі, але не даруем сабе, калі раўнадушна прамаўчым у той час, калі на нашых вачах гвалтуецца мова нашых продкаў. Максім Танк у суровыя гады вайны верыў, што роднае слова расквеціць усмешкай вусны дзіцяці, а сёння Пімен Панчанка з горыччу піша, што беларускія дзеці ў школу з іншай моваю бягуць. Мы, пакаленне моладзі 90-х гадоў XX стагоддзя, галасуем за нашу вобразную, вольную, пявучую беларускую мову!»

М. МАРУДАЎ.

*У мясцовых філіях*

## ХОЧАШ У НАРОДНЫЯ ДЭПУТАТЫ!

Нядаўні сход гарадской філіі БСДГ абмеркаваў асноўныя задачы працы віцебскіх сацыял-дэмакратаў у перыяд перадвыбарнай барацьбы.

Прысутныя, акрэслілі канкрэтныя накірункі дзейнасці грамадоўцаў, важнейшы з якіх —пошук ды падрыхтоўка кандыдатаў у народныя дэпутаты рэспублікі сярод сяброў і прыхільнікаў партыі. Актыўная прапаганда сацыял-дэмакратычных ідэй у грамадстве—шчэ адно з галоўных заданняў палітыкі мясцовай філіі. Аднак яно патрабуе пэўнай «кваліфікацыі», і таму віцебская грамадоўцы вырашылі больш глыбока вывучаць тэорыю сацыял-дэмакратыі, каб «прафесійна» даносіць яе да выбаршчыкаў.

Такім чынам, можна чакаць узмацнення распачатага мясцовымі «меншавікамі» інфармацыйна-прапагандысцкага наступу на тутэйшых праз сродкі масавай інфармацыі.

М. КАЛІНОЎСКІ.



✦

17 сакавіка 1990 г. па ініцыятыве Польска-чэшскаславацкай Салідарнасці ў гарах, на мяжы Чэха-Славаччыны і Польшчы, адбылася сустрэча прэзідэнта ЧСФР В. Гавела і кіраўніка польскага прафсаюза «Салідарнасць» Л. Валэнсы.

Пра Польска-чэшска-славацкую Салідарнасць чытайце на 3-й стар.

✦

## РАЗАМ ДАДУЦЬ РАДЫ

У Гомелі адбылася канферэнцыя прадстаўнікоў аб'яднанняў і грамадзянаў дзевяці гарадоў Гомельшчыны. У ёй прыняло ўдзел 21 грамадскае аб'яднанне, у тым ліку і філіі шэрагу рэспубліканскіх арганізацыяў, а таксама дэпутаты мяйсцовых Саветаў вобласці.

Канферэнцыя прыняла рашэнне ўтварыць Гомельскую Кансультатыўную Раду «Грамадзянскае дзеянне», у якую ўвайшлі прадстаўнікі большасці арганізацыйудзельніц імпрэзы, у тым ліку БНФ «Адраджэньне», Грамады, аб'яднаных дэмакратаў, хадэкаў (БХДЗ), НДПБ, Беларускай сялянскай партыі, Руху за дэмакратычныя рэформы, Партыі народнай згоды.

Сябры Кансультатыўнай Рады вырашылі дамагацца найперш станаўлення беларускае дзяржаўнасці, рэфармавання мяйсцовае ўлады, адраджэння інстытута прыватнай уласнасці на зямлю, ліквідацыі любой манаполіі на сродкі вытворчасці й інфармацыі.

М. ВАЛАЧОБНІК.

*З неафіцыйных крыніц*

### Ці ў рабочы час!

15 лютага ў будынку аблсельгастэхнікі адбылася нарада прыхільнікаў камуністычных ідэй, дзе прысутнічалі і сябры колішняга абкама партыі. Разглядалі пытанні адраджэння КПБ і яе супрацоўніцтва з ПКБ.

### Амаль сакрэтна

Прайшла сустрэча былых сакратароў райкамаў кампартыі, што прыехалі з большасці раёнаў Віцебшчыны. Тэма спаткання пакуль невядомая.

### Эх, дзе яно, «золата партыі»!..

На нядаўнім паседжанні бюро Віцебскага абкама КПБ, дзе прысутнічала амаль 2/3 сяброў ягонага ранейшага складу, вырашана пытанне аб партыйных складках. Плаціць стойкім змагарам за «светлую будучыню» прыйдзецца нават і за паўтарагадовы перыяд прыпынення дзейнасці кампартыі. Праўда, «хто колькі зможа».

Узнёслую атмасферу паседжання сапсавалі колькі членаў бюро, якія адмовіліся працаваць у гэтым органе.

### Марце на здароўе!

Адзін з дэпутатаў аблсавета страсна жадае бачыць сябе ў крэсле старшыні аблвыканкама. Ажыццяўленне сваёй мары ён пачаў з аналізу працаздольнасці У. Кулакова ў мінулым годзе.

## НАЦДЭМ І БЕЗ НДПБ— НАЦДЭМ

Улічваючы пэўную праграмную неаформленасць Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі і адсутнасць у яе шэрагах аўтарытэтаў, магілёўскія нацыяналдэмакраты прынялі рашэнне аб спыненні дзейнасці мясцовай суполкі. Аднак гэтае зусім не азначае, што колішнія сябры партыі прыпыняць сваю працу дзеля мэтаў нацыянальнага Адраджэння.

Ю.С.

### Тэлеанонс

Глядзіце **24 лютага ў 20.00** па Беларускаму тэлебачанню «Палітычны калейдаскоп. Сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь вачамі сацыял-дэмакратаў».

У перадачы прымае ўдзел **старшыня Цэнтральнай Рады БСДГ А. ТРУСАЎ.**

## НАВІНЫ

У Гародні зарэгістравана дзесятая па ліку канфесія—грэкакаталіцкая (уніяцкая) абшчына.

***

Гэты год асаблівы для Талачына: 560 гадоў мінае з моманту першага пісьмовага ўпамінання пра горад.

Назіральнік.

